ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ
НАРАДЗІЎСЯ 12 ЖНІЎНЯ 1950 ГОДА
У ВЁСЦЫ ВАРОНІНА КЛЕЦКАГА РАЁНА.
ПАСЛЯ ЗАКАНЧЭННЯ
ГРЫЦЭВІЦКАЙ СЯРЭДНЯЙ ШКОЛЫ (1967 г.)
ПАСТУПІЎ У СЛУЦКАЕ ГПТВ-97.
СЛУЖЫЎ У РАДАХ САВЕЦКАЙ АРМІІ.
ПРАЦАВАЎ ЭЛЕКТРЫКАМ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ
СЛУЦКА, ЖАБІНКІ І КЛЕЦКА.
З 1977 ГОДА ЖЫВЕ У РОДНАЙ ВЁСЦЫ ВАРОНІНА,
ПРАЦУЕ ЭЛЕКТРЫКАМ.
ВЕРШЫ ПАЭТА ДРУКАВАЛІСЯ
У РЭСПУБЛІКАНСКІМ ПЕРЫЯДЫЧНЫМ ДРУКУ.
ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ — УДЗЕЛЬНІК СЕМІНАРА
МАЛАДЫХ ПІСЬМЕННІКАЎ У КАРАЛІШЧАВІЧАХ 1981 ГОДА.

## ЧАС СВІТАННЯ

Уздыхаем, шкадуем, бядуем: пад гарачымі вятрамі часу «сціскаецца», меншае самы старажытны мацярык нашага жыцця — вёска, а мацярык гэты пад наша шкадаванне і ўздыханне зноў і зноў падае знакі сваёй глыбіннай сілы, сваёй жывучасці і трывучасці — жывіць паэзію, нараджае паэтаў.

Вось і Леанід Галубовіч падаў свой голас з гэтага мацерыка,— голас адметны, самавіты.

Яго слова прынесла адтуль пах свежай баразны, што паруе пад вясновым сонцам, адчуванне глыбіні жыцця, імкненне спасцігнуць тую меру жыццёвых каштоўнасцяў, якую падсвядома ведае народ і разуменне якой дадзена толькі сапраўднаму мастацтву:

Зноў заявіліся гракі.
Ад іх чарод чарнее поле.
Знікаюць мігам чарвякі
У іх галодным цёмным горле.

Грак не пяюн, і ўсё ж скажу:
Люблю яго за клопат весні,
За хлебаробскую душу...
А будзе хлеб — і будуць песні.

Свет паэзіі Леаніда Галубовіча — актыўны, дзейны, працавіты. Тут расце хлеб, шумяць над нівамі ліўні, стукаюць сякеры цесляў і ламы далакопаў,— адным словам, тут чалавек і прырода робяць сваю адвечную справу, якая і стаецца зместам вершаў паэта.

Жывыя малюнкі жывога, непрыдуманага жыцця — так, гэта таксама нямала, асабліва сёння, калі наша маладая — ды і немаладая,— паэзія пачынае ўжо задыхацца ад высілкаў штучнае думкі. У Леаніда ж Галубовіча малюнак жыцця, жыццёвае назіранне імкнецца стаць думкаю пра жыццё, і калі гэта адбываецца, стаецца, дык думка гэтая надзіва здаровая, глыбокая, з камячкамі мацерыковай глебы на корані.

Вось, калі ласка: вяскоўцы, мужыкі разважаюць пра палітыку — пра В'етнам, пра Пехлеві...

Пакуль не скажа дзед які
З развагай аналітыка:
«Хлеб трэба сеяць, мужыкі,
Без хлеба — дрэнь палітыка».

Дададзім: як і літаратура, калі яна не наталяе душу спажыўнай, як хлеб, думкаю.

Леаніду Галубовічу дадзена разуменне чалавечай душы. З гэтага разумення і вырастае яго любоў да чалавека. Па глыбіні, пранізлівасці гэтага пачуцця некаторыя яго вершы нагадваюць узоры класічнай лірыкі:

Збалела бабуля мілая.
Як выжыць яшчэ змагла?
Няўцешна вачамі мілуе
Закуткі свайго жытла.
Стаіць у двары як вечнае.
Нібыта душа сама,
І сонца яе прасвечвае.
І ценю яе няма...

Які гэта дзівосны вобраз чалавечага трывання, чалавечай стойкасці перад жыццём! Яна ж перад вачамі стаіць, гэтая «бабуля мілая», і ўзрушвае глыбока, да болю, як узруш-

ваюць і хвалююць і «подруга дней моих суровых...», і «старушка... в старомодном ветхом шушуне», як многія і многія іншыя вобразы, створаныя літаратурай, каб крануць сэрца чалавечае, каб не даць чалавеку счарсцвець у барацьбе з жыццём і за жыццё.

Яны яшчэ больш падаражэлі, добрыя пачуцці, у нашым сённяшнім свеце з яго самым небяспечным з усіх дэфіцытаў — дэфіцытам чалавечага ўзаемаразумення. Леанід Галубовіч фіксуе гэтую рысу ў светаадчуванні сучаснага чалавека — у адным з яго вершаў вырываецца скрушлівае, як уздыханне: «І прагнеш аднаго — ўзаемаразумення».

Леанід Галубовіч — паэт-лірык, аднак у яго лірыцы ёсць добрая мера эпічнасці. Ён бачыць жыццё ў яго складанасці, у процістаянні поглядаў, думак, меркаванняў, і таму многія яго вершы дыялагічныя, у іх ёсць сюжэт і ёсць характары — якасць у лірычнай паэзіі і рэдкая, і каштоўная.

Адзін з многіх у зборніку малюнкаў жыцця — бабуля перакрывае хату. Цеслі: «Ветрылі зубы ўверсе, падпіўшы, каб не памерла, не заплаціўшы»; бабуля: «Хата палачана. Шыферам крытая. Цеслям заплачана. Цеслямі выпіта...»; паэт: «Дом па-мужыцку да ладу даведзены. Што ж не прыходзіць ніхто у адведзіны?» Не, што б там мы ні казалі, якія прыгоствы ні знаходзілі б у адмыслова выштукаваным слове, а ўсё ж найвышэйшая прыгажосць у паэзіі — праўда! Праўда слова, праўда пачуцця, праўда душэўнага жэсту.

Леаніду Галубовічу многа дадзена. У яго таленце адчуваецца жыццёвая сіла, глыбіня,

але — і нейкая крохкасць. Як ён пакіруе сам сабою, як будзе расці, развівацца — пакажа час. Але ўжо цяпер адчуваецца: яго моцнай жыццёвай аснове патрэбна агульнаадукацыйная падзарадка, бо дзе-нідзе ён пачынае паўтарацца, кружыць вакол сябе самога, дзе-нідзе яго думцы не стае «цягі» і яна прабуксоўвае ў вычарпаным пласце,— адным словам, перад паэтам паўстае нялёгкая задача дасканалення свайго таленту.

Будзем спадзявацца, што задача гэтая яму пад сілу.

Будзем верыць: ён з ёю справіцца.

Дык — у добры час!

На добрае...

*Вера Палтаран*

* * *

Шукаю чытача —
Хаўрусніка душы,
Які б з майго пляча
Цяжар пералажыў

І на сваё плячо...
Лягчэй дайшлі б да мэты.
Так мала чытачоў,
І тыя ўсе — паэты.

І ўсё ж жыве, аднак,
Надзея, і здаецца,
Што хоць душа адна
На слова адзавецца.

ТАЕМНАСЦЬ АГНЮ

Не ведаю, хто дрэва пасадзіў.
Яно было, здаецца мне, адвеку.
І я яму, нібыта чалавеку,
Адкрыў сябе і час свой асудзіў

Высокай мерай тайнага быцця.
І тое, што не выказаў я свету,
Што не скажу нікому па сакрэту —
Яму скажу на споведзі жыцця.

Спатоляць тайну тую карані,
І вышапча, магчыма, штосьці крона,
І толькі існасць выстаіць бясслоўна,
І дагарыць з тым дрэвам у агні.

Як навучыцца разумець яго,
Агонь, якім мы праведна згараем,
Агонь, якому сутнасць давяраем
Жыцця свайго?..

### ПАЭЗІЯ

Ты — боль, паэзія. Ты — быль.
Твае суровыя законы
Не для забаў, не для гульбы —
А пошук ісціны да скону.

Ты — рай, паэзія. Ты — рой
Адвечных дум, дзе мы згараем.
І толькі геніі парой
Жылі часова гэтым раем.

Ты — жаль, паэзія. Ты — жар.
Я па тваім хаджу вуголлі.
Чыя не прагнула душа
Твайго зняволення і волі?

Ты — сум, паэзія. Ты — суд
І мрояў нашых і здзяйсненняў.
Хай душы шчырыя нясуць
Высокі лад тваіх памкненняў!

Ты — яд, паэзія. Ты — сад
З адзіным яблыкам спакусным.
Над ім — каторы год падрад! —
Мае збалела смягнуць вусны...

Ты — боль, паэзія. Ты — бой.
Ты — праўды непрыступнай вежа.
Я — праведнік і грэшнік твой,
Пусці мяне ў сваё бязмежжа!..

* * *

Стаіць малочнае надвор'е:
Мароз, і снег, і ціш кругом...
Халодны камень грэе ў горле
Лясная птушка пад акном.

Я са стала зграбаю крошкі
І засяваю жорсткі снег,
І воч не зводжу з чорнай кошкі,
Аж покуль крыллем не ўзмахне

Птушыны грай...
Хачу застацца
Такім, як ёсць я, дзіваком.
І ў час вясновы спадзявацца
На спеў птушыны за акном.

* * *

Маладыя гады,
Маладыя жадання!
М. Багдановіч

Хто рассыпаў зорныя снягі?
Хто зацепліў раннія жаданні?
Хто рачных заломаў берагі
Закаваў, як вечныя пытанні?

Хоць пусці ты памяць на распыл.
Праз гады чуваць мне голас мамы:
«Сын, не загуляйся, не праспі...
Час світання, ён кароткі самы...»

* * *

Зіма. Цвітуць аблокі.
Сінее ясны дзень.
Сварлівыя сарокі
Дзяўбуць свой цёмны цень.

Гуляе лёгкі вецер —
Ганяе снежны пух.
Зіма на белым свеце...
Вясна займае дух!

* * *

Няўжо сплыве адбеленая даль,
І шэрань зноў дарогі мне пяройдзе,
Размые каламутная вада
Настылае і чыстае ў прыродзе?

...Цяпло і холад, цемра і святло
Прадоўжаць круг заведама вячысты.
О, хоць бы тое квеценню ўзышло,
Што выстыла і выстаяла чыстым.

* * *

Зноў заявіліся гракі.
Ад іх чарод чарнее поле.
Знікаюць мігам чарвякі
У іх галодным цёмным горле.

Грак не пяюн, і ўсё ж скажу:
Люблю яго за клопат весні,
За хлебаробскую душу...
А будзе хлеб — і будуць песні.

* * *

Сатканы восеньскі матыў
Сівою вяззю павуціны.
Рудзеюць з вуліцы платы
Перагарэлаю націнай.

...Прасторны сад. І ў ім — адзін,
Нібыта райскі, яблык позні
Між чорных вугальных галін
Датлеў амаль пад ветрам слёзным.

Пад вечар — восень, а зрання
Атуліць сад халодным пухам
Растайны снег, нібы мана,
Якую ты дарэмна слухаў.

Бо гэты снег з галля сцячэ,
А там, мядовым сокам поўны,
Свіціцца будзе ўсё яшчэ,
Нібыта райскі, яблык позні.

* * *

Май, месяц ветраны,
Зялёны голас твой
З лясін асветленых
Звісае нада мной.

Пахучай квецені
Плыве ружовы дым.
Сады аплецены
Буяннем маладым.

Дух першароднасці
Імкнецца з небыцця
Да бессмяротнасці
Разумнага жыцця.

## ПРАДВЕСНЕ

Вясной запахла. У хляве
Жуе карова клопат летні.
Зялёнай думай аб траве
З паўдня заплакалі палеткі.

Ды ўсё ж цяпла ім не стае,
Каб адагрэць сябе да донца.
І зноў паціху адтае
За зіму вымерзлае сонца.

І гулка б'юцца ледзяшы,
Як шкла, іх сколкаў на парозе.
І ўсё святлее на душы,
Як і ў самой наўкол прыродзе.

## МОЙ ЖНІВЕНЬ СПЯКОТНЫ...

Душна штосьці, сябры...
Жнівень надта спякотны.
Ні ў двары, ні ў бары
Не ўсядзець без работы.

І зямліца да рук,
Як крывіна — да сэрца...
Аддаю, што бяру,
І бяру, што даецца.

Ёсць да хлеба і ёсць
Для душы й за душою.

Я ў Айчыне — не госць...
Мне яна — не чужою...

Мне б крынічнай вады,
Як таму травастою,
Ад якое сады
Зелянеюць вясною.

Дайце ж гэтай вады
З нетраў любай Айчыны,
Каб не знаў я нуды
Да смяротнай хвіліны.

## ЛІПЕНЬСКІ ПОЎДЗЕНЬ

Чырвоныя коні ў зялёнай траве
П'юць сіняе-сіняе чыстае неба...
І сонца над светам спакусна плыве,
Як бохан гарачы пшанічнага хлеба.

Вясковы пастух разамлеў на мяжы
Блакіту і зелені вечнай Айчыны.
І, блізка, на могілках сохнуць крыжы
Ад слёз і расы пад акорд салаўіны.

Так свет гарманічны, так сплецена ўсё
Адной непарыўнаю ніткай разгадкі.
...Бяжыць і смяецца малое дзіцё.
Сябе пакідае і нас — без аглядкі —
У ліпеньскім дні...

* * *

Хмурная восень злізала пагоркі...

Позьнія яблыкі ў садзе пагорклі...
Ціха ў душы, нібы ў доме начлежным.
Толькі душа мая мне не належыць.
Хмурнаму небу. Рыжаму долу.
Голаму саду. Мірнаму дому.
Сумнай жанчыне ў роднай Айчыне...

Дзе прыналежна — там і спачыне.

## ВЕРАСЕНЬ

Ні шолаху, ні шуму.
Жаўцееціца лісцё.
За шэрай шырмай суму
Зацеплена жыццё.

Мільгаецца халодны
Худы птушыны цень —
Крумкач, як смерць жалобны,
Прысеў на цёмны пень.

І доўга несагрэта
Глядзім няўцешна мы
На светлы захад лета,
На чуйны ўсход зімы.

2 Зак. 3844

* * *

Лета ў верасні.
Сонца нізкае.
Лес у верасе,
Бы ў агні стаіць.

Птушка пільная
Неспакоіцца —
Поле жніўнае
Пожняй колецца.

Неба чыстае —
Ветрам мецена.
Даль празрыстая
З небам зведзена...

Юнь вячорная
Ранкам сплачана...
Восень шчодрая —
Лета спадчына.

* * *

Жніўнем прапахлыя едуць вагоны
Ў снежную замець на перагоны.

Помню іх поўнымі садам і полем.
Гойдае вецер голае голле...

Даўняя дума цёплага лета
Белай завеяй у полі адпета.

Што ж я загадаў пра кажух тут і дровы,
Сам, як зіма, малады і суровы?..

Можа, надзею губляю на потым?
Дай мне збавенне, як прагу работы.

Дай да вясновых данесці пратталін
Некалькі слоў сваіх, некалькі каліў...

## СТЫХІЙНАСЦЬ

Я ў непагадзь акно сваё раскрылю.
Быць не хачу раздзеленым мяжой.
Хачу істотай адчуваць стыхію,
Хачу пажыць з расхлістанай душой.

Хачу падыхаць зорнымі вятрамі,
Сузор'яў іншых вымыцца даждждом...
Сусвет вялікі пазнаём вякамі,
А самі тайнай для другіх жывём.

Няхай жа вецер той развее зоры,
Як зёрны настальгіі і тугі,
Па ўсім Сусвеце —
цесным і прасторным,—
Дзе ў кожнага, на жаль, свае кругі.

## ПРАВОДЗІНЫ ВОСЕНІ

Апошнія лісты апалі долу.
Гарыць у кроне залаты пралом
Антонаўкі, налітае мядовым,
Густым і перастоеным святлом.

Ну, што ж, пара удачы і пралікі
Ў здабытае адно падсумаваць
І аб гадах, што нібы птушкі зніклі,
Задумацца, але не сумаваць.

## МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ

Стынь стаіць. Грыміць вядро.
Рып з-пад калаўрота.
Дастаю з глыбінь святло
Зорнай пазалоты.

Зацяплю на далані
Дзіўны бляск Венеры...
О, душа, мані, мані —
Не пазбаў нас веры...

* * *

Пасля адлігі маразы
Лясы зашклілі.
Звягаюць санак палазы
Па коўзкай плыні.

Даўно няма каму каваць
Каня. І сам ён
Аб гэтым будзе мне ківаць,
Скрануўшы сані.

І ўсё ж дацягне, давязе
Да месца конік.
За гэта сена прынясе
Пад вечар конюх.

Патрэпле грыву, паглядзіць
Каню у вочы...
Чым небараку дагадзіць
Насупраць ночы?

Стаіць стары, як сам не свой,
Збярэ салому.
І паківаюць галавой
Адзін другому.

## ЖУРАВЕЛЬ

Стары, замшэлы журавель
Скрыпіць да самай ночы.
У яго душы здаўна жыве
То сум, то смех жаночы.

Падоўгу ў неба ён глядзіць,
Дзе ў бездані няўтольнай
Жывы сабрат яго ляціць,
Душой і целам вольны.

У студню ўсуне галаву,
Каб зноў вады напіцца,
І з цяжкім стогнам на траву,
Знясілены, садзіцца.

Не саступіць адтуль нагой,
Дзе ў нас жыве патрэба.
...Глядзіць са студні на яго,
Не высыхае неба.

* * *

Я зорнае неба люблю!
Святло гэтых зор, нібы тайны.
Святымі вачыма лаўлю
Світальныя іх развітанні.

І зойдзецца страхам душа,
І цепліцца розум разгадкай.
А голас зямны: «Пасняшай
Давесці свой дом да парадку».

І зоры знікаюць з вачэй,
Бо дзённая ноша зямная
І сёння не стала лягчэй,
Чым зорная дума начная.

## НАВАЛЬНІЦА

Насунецца чорная хмара.
Маланкі скрамсаюць лясы.
Знямеюць жаночыя твары.
Заціхнуць наўкол галасы.

І лівень лавінаю хлыне
І змоўкне ў пабітых жытах.
І цёмная непагадзь згіне,
Развеяўшы немасць і страх.

Засвеціцца сонца блакітам
З-за лесу зялёных павек,
І боль за пабітае жыта
Падкажа, што ты — чалавек.

* * *

За лесам сонца села.
За ім сплыло святло.
Ў траве пахаладзела
Птушынае крыло.

Іду надрэчнай сцежкай.
Амаль нябачна даль.
Ледзь чуйна ў бераг плешча
Згусцелая вада.

Высокі дуб на строме
І той згубіў свой цень.
Там недзе ў цёмнай кроне
Начуе ясны дзень.

* * *

«Ах, радзее лес!
Ах, мялее рэчка!
Гэта ўсё прагрэс,
Слепата і спешка...»

Сёння ён крычыць —
Заўтра зноў знявечыць.
А чаго ж маўчыць,
Хто любоўю лечыць?

* * *

Дубамі адвечнымі продкі
Надзейна ў Айчыну ўраслі,
І вочы нябожчыцы-цёткі
Валошкамі ў полі ўзышлі.

Вясковая вечная повязь
Вяртае жывых з забыцця.
Я — завязь, я — зерне, я — споведзь
Свайго разумення жыцця.

Чаго яшчэ ў свеце не будзе?!
І згаснуць: хто — ноччу, хто — днём
Высокія зоры і людзі,
Сусвет азарыўшы агнём.

І выстаіць стыласцю студзень,
І майскае ўспыхне святло,
Чаго яшчэ толькі не будзе,
Узросшы на тым, што было!

## НАЧНАЯ НАВАЛЬНІЦА

Зорны грай згарае ў вышыні
Чыстага засіненага неба.
Быццам на гарачым камяні
Усядзець у душным садзе нельга.

Нечакана выгукне здаля
Першы гром над кронаю бярозы,
І прыціхне чуйная зямля,
І травы зялёнай бліснуць лёзы;

І пачнецца сеча: смерць — на смерць!
Азарацца і зямля, і высі.
Доўга будзе полымна звінець
Дождж па дахах, як зярністы высеў.

А назаўтра — выгляне лісцё.
Свежае, зіхотна маладое.
І адыдзе, кане ў забыццё
Тое, што здавалася бядою.

* * *

Не сёння, дык заўтра
Узыдзе, саспее
Няшчадная праўда,
Дзе думу пасеяў.

Не заўтра, дык потым
Праявіцца завязь
Надзённай работы,
Як добрая памяць.

Ні сёння, ні заўтра,
Ні потым, ніколі
Жыцця мы не варты,
Не сеяўшы долі.

* * *

«Горш не будзе, чым было»,—
Мой сусед заўжды гаворыць.
«Што было — вадой сплыло»,—
Нехта ўслед за ім паўторыць.

Веру ім. Аднак парой
Зноў мінулае нахлыне
Тою самаю вадой,
Што сплывае, ды не гіне.

## ПАЛІТЫКА

У шумным гурце мужыкі
Гавораць пра палітыку,
Хоць і яна ім не з рукі,
Як той агонь на прыпеку.

Самоса тут і Пехлеві —
Каран каранаваны.
Ці мала выцекла крыві
Пад грукат барабанны?

А потым стануць разважаць
Яны пра век нейтронны
І доўга будуць размяжаць
Зялёны колер з чорным.

Пакуль не скажа дзед які
З развагай аналітыка:
«Хлеб трэба сеяць, мужыкі,
Без хлеба — дрэнь палітыка».

* * *

Прычакаўшы глыбокага снегу,
Аб'язджаюць каня мужыкі:
Маладому, шалёнаму бегу
Дзве аглоблі сцінаюць бакі.

Ні на міг не правісне ляйчына.
Не папусціць свабоды рука,
І — туды, дзе глыбее лагчына,
Да апошняга правіць рыўка.

Вось ён — потны, загнаны, знямоглы —
Ад тугі і адчаю захроп.
Заўтра стане пакорна ў аглоблі
І без пугі не пойдзе ў галоп.

## ТВАРЦАМ АГНЮ

Агонь з нічога не ўзнікае.
Павінна ўсё-ткі штосьці быць,
Што разам з тым агнём знікае,
Калі аблонь агню гарыць.

Павінен творца быць — мы знаем —
Агню, які для нас нямы.
Гарым, ствараючы, згараем
Ды саграваем іншых мы.

А калі сам згарыць тварэц,
Агонь — тварцу таму вянец.

Я ля агню не раз сумеўся,
Не адагрэўшы нават рук...
Няўжо, няўжо ён узгарэўся
Ад болю нейчага і мук?..

* * *

Выпростваем лагічна
Дарогі мы і рэкі.
І лозунг наш магічны:
«Ад сёння і — навекі!»

Наблізілі райцэнтры,
Сталіцы, кантыненты,
Рачныя берагі...
А ўласныя парогі
Далёка ад дарогі —
За памяццю ракі...

* * *

Між чорных суцішных дамоў,
У белай начной кругаверці,
Зближаю гарачую кроў
З настыласцю будмічнай смерці.

Які шырачэзны пагост!
Якое высокае месца!
І дрэвы стаяць навырост
Майго неспакойнага сэрца.

То неба дастану вачмі,
То думай зямлі дакрануся...
О, дзень мой наступны, вазьмі
Усё, з чым к табе заяўлюся.

І злата, і шчырую медзь,
І гэтую страшную думу:
Як радасць жыцця зразумець,
Яго не адолеўшы суму?

Бо ўсе на адзіны аршын
Не змераць у вечнасць дарогі.
Далёка яшчэ да вяршынь
Сумненняў, Развагі, Знямогі...

* * *

Жыць не стала лягчэй,
Як ні дзелім, ні множым,
Нешта знімем з плячэй,
На душу пераложым.

Па жыцці ідучы,
З тым цяжарам і гінеш.
Зняць бы трошкі з душы.
І хацеў бы — не знімеш.

* * *

Мы многа гаворым, а болей маўчым.
Не выказаць час,
што скрозь нас працякае.
І думы людскія гайдае ўначы
Калыска сусвету ад зор залатая.

Праўдзівае слова гадую гады,
Не ў сілах яго адарваць ад істоты.
Хоць ведаю сам: зелянеюць сады
Вясною,
каб восенню скінуць лістоту...

Пазнаўшы пачатак — не знаем канца...
І свет гэты белы сцвярджаем нанова.
І плача ў калысцы сасновай дзіця.
Не знае сябе і пакутуе словам...

* * *

*Бабулі маёй Алімпіядзе*

Збалела бабуля мілая.
Як выжыць яшчэ змагла?
Няўцешна вачыма мілуе
Закуткі свайго жытла.

Стаіць у двары як вечнае,
Нібыта душа сама,
І сонца яе прасвечвае,
І ценю яе няма...

## ДРАМА

Трое сыноў-асілкаў
Выраслі неўзаметку,
Ды да апошняй жылкі
Высахла маці ўлетку.

Усё, што магла, сыночкам,
Ім аддала да скону.
Светлай ліпеньскай ночкай
Глянула на ікону.

Глянула б і на дзетак,
Толькі няма іх дома.
Нават жаданых вестак
Так не давалі доўга.

Так выспяваюць драмы.
Так вырастаюць дзеці.

Ўсім дала тэлеграмы
Ім аб уласнай смерці.

Лёгкай была пушынкай —
Кожны б падняў рукою...
Трое сыноў-асілкаў
Гнуліся пад труною.

## НАДЗЕЛЫ

Разбіта поле на дзялянкі.
Зацята бабы пырнік рвуць.
Спіну, сагнутую ад ранку,
Апоўдні цяжка разагнуць.

За імі роўнымі радамі,
Жывою завяззю раслін,
Іх поле лёсу, што з гадамі
Пакіне дзецям напамін.

Жыццё нікога не абдзеліць.
І я з трывогаю глядзеў
На іх жаночыя надзелы,
Пра свой гадаючы надзел,
Зарослы, пэўна...

* * *

Самотны жураўліны клін
На небасхіле вечаровым...
І вокам ты куды ні кінь —
Усё гарыць агнём барвовым.

Бабуля з посахам крывым
Глядзіць —
хусцінкі край адхіліць —
Туды, дзе плачуць журавы
На вечаровым небасхіле.

Душа са зведзенай зямлі
Ўзмахне вось-вось крылом суровым,
Як жураўліны гэты клін
На небасхіле вечаровым...

* * *

«Шчасця зранку не меў —
Не чакай і пад вечар»,—
Маці жаліцца мне
Аб сваім, чалавечым.

«Вось і ты пасталеў,—
І слязіна сцякае,—
Шчасця зранку не меў...»
«Пажыву... Пачакаю...»

* * *

Няпэўна так жывеш,
Што сам сабе не верыш,
І пішаш кожны верш,
Бы стукаешся ў дзверы

Сусвету усяго,
Нібыта ў час зацьмення,
І прагнеш аднаго —
Ўзаемаразумення.

* * *

Хутчэй!
З маленства — у юнацтва...
Хутчэй!
З юнацтва — ў маладосць...
Пражыць той час — не здагадацца,
Хто ты на свеце гэтым ёсць.

Хутчэй!
Да мэты неспатольнай...
Хутчэй!
Да ласкі мілых рук...
Каб потым ціха, непрытомна
Свой завяршыць апошні круг.

Душы да смерці не дагодзіш,
А ўсё, што розумам спасціг,
Жыве, жыве ў тваім народзе
Вякамі там, дзе жыў ты міг.

## СТАЛЯР

У цёмнай гэтай хаце
Ёсць светлыя вуглы...
Усё яе багацце —
Варштат і два сталы.
А па вуглах — партрэты;
Якая ім пара?! —
Сямейны і [redacted] газеты
Партрэт правадыра.
Пустая быццам хата...
Ды толькі гаспадар
Варожыць ля варштата —
У кожнага свой дар.
Жыве, не заўважае,
Ці праведна жыве,
І розум паважае
Ў задумнай галаве.
А сумнага зацьмення
Насунецца гара —
Шукае разумення
Ў вачах правадыра.
...Гайдаецца з пілою,
І дзень яму малы,
І цёмныя сабою
Высвечвае вуглы.

## ПАЛЯЎНІЧЫ СЕЗОН

Блукаю па барвяным лесе,
Дзе павуцінай голае галлё
Падвязана ў высокім паднябессі
За шэрае птушынае крыло.

Гайдаюся, нібы на вершаліне,
На думе, непазбытай, праз вякі:
Нішто жывое ў свеце не загіне
Ад мудрай чалавечае рукі.

А мне насустрач — лямант апантаны,
І звера рык, і пах парахавы...
І я стаю, нібыта звер загнаны,
Над плахай акрываўленай травы...

І птушка, абарваўшы павуцінне,
Свабодна крылле ў небе развядзе —
І родны край раней пары пакіне,
Сваю душу пакінуўшы ў гняздзе...

## МЯЖА

Гародзіць дзед вясной платы,
І ў агарод свой не запусціць
Слупок акораны, руды,
Дзе месца выбрана капусце.

«Яшчэ гародзіш, дзед,— кажу,—
Зямлю за век загарадзіў бы?..»
— Усё павінна мець мяжу! —
Мяркуе дзед каля сядзібы.

— А як жа, дзед, душа, скажы?
Яна ж сваю шукае Мекку.
— А месца хопіць для душы
Там, дзе хапае чалавеку.

Ну, што яму яшчэ скажу?!
Я па бязмежнасці тужу...

## КАНТРАСТЫ

Нешта цёмна ў свеце,
Хоць і сонца свеціць.
Дай прайдуся лесам —
Набяру пралесак.

Там іх, нібы зорак,
Дзе ў гушчэчы морак.
Прынясу багацце
Зорнага суквецця —
Хай святлее ў хаце,
Калі цёмна ў свеце.

Я б жадаў, паверце,
Верш іначай скласці:
Каб святлела ў свеце,
Калі светла ў хаце.

Так няхай жа будзе,
Каб ад бляску вокан
Стала светла людзям,
А ад іх — навокал.

## ЭЛЕГІЯ СТАРОЙ СКРЫПЦЫ

Паўміралі музыкі —
Слухачы засталіся.
Скрыпкі звонкія зыкі
Так даўно не ліліся.

На гарышчы згарбела
І рассохлася дэка,—

Сэрца ў ёй задубела
Без душы чалавека.

Дайце смык навашчу я!
Дайце струны настрою!
Песня ў скрыпцы начуе
Для любога настрою.

Што ж ты, скрыпа, не граеш
Маладому застоллю?
Ці ж не роднаму краю
Ты прарочыла долю?!

Ці ж не ў чуйныя зыкі
Твае струны зліліся?
Дзе ж вы сёння, музыкі?
...Слухачы засталіся.

* * *

Жывымі не сустрэліся ў імгненнях...
Мы вечнымі сустрэнемся, калі
Перапляцёмся пад зямлёй карэннем,
Змяшаемся ў адзіны сок зямлі.

На ўсёй зямлі, як на адным пагосце,
Спляцёмся, не адрынуўшы рукі...
Наш шлях круты
нашчадкі, пэўна, спросцяць.
І ў нашых травах выстаяць вякі.

## ІНВАЛІДАМ ВАЙНЫ

Колькі войны скасілі,
Колькі легла касцьмі?!
Твая слава, Расія,
Перамыта слязьмі.

Ты шчаслівы, гавораць,
Абмінула вайной.
Яе беды і гора
У цябе за спіной.

Абмінула пажарам.
Толькі вочы да дна
Пакалечаным тварам
Праглядзела яна.

На дарожным прыпынку
Зноў сляпы, нібы ў сне:
«Глянь, будзь ласкавы, сынку,
Мой аўтобус ці не?»

І хаджу за бязногіх,
І гляджу за сляпых,
І за многіх, за многіх
Я жыву нежывых...

Мне і веку не хопіць,
Ды і век той міне,
Каб забыць, і не помніць,
І не знаць аб вайне.

* * *

*Памяці земляка*

Там, ля возера Балатон,
У адталым гніллі балотным
Малады залёг батальён,
Каб ужо не падняцца потым.

Ды баец быў дужэй за другіх.
Ён і мёртвы меў столькі сілы,
Каб дайсці да лясоў сваіх,
Да айчыннай задымнай сіні...

Праз куродым вайны і дрот
Ён прайшоў не чужынцам — госцем,
Пахаваў яго свой народ
На шырокім сваім пагосце.

* * *

Хату бабулі перакрывалі.
Ладныя цеслі латы часалі,
Ветрылі зубы ўверсе, падпіўшы,
Каб не памерла, не заплаціўшы.

Хата палачана.
Шыферам крытая.
Цеслям заплачана.
Цеслямі выпіта.

Дом па-мужыцку
Да ладу даведзены.

Што ж не прыходзіць
Ніхто у адведзіны?

Сорак гадочкаў
Мінула, а верыць —
Нехта з сыночкаў
Пастукае ў дзверы.

## ЛЁС

Глухі вясковы конюх
Жыве ў маёй глушы.
Ніхто не чуў ніколі
Жальбы яго душы.

Ён ціха і няўцямна
Свой лёс, нібыта воз,
Адзін пад гору цягне
(З гары б даўно растрос).

Ідзе — не азірнецца,
Крычы ці не крычы.
Вось дойдзе ён да месца —
Прыходзь і памаўчы...

* * *

Кожны дзень у двары
Дзед пілуе дровы.
Вунь якія кастры
Наскладаў яловых!

Як бы там ні было,
А жыве заняткам:
Запасае цяпло
Не сабе — нашчадкам.

І спачыну ў жыцця
Ні на міг не просіць...
Кожны з нас да канца
Свой агонь праносіць.

* * *

*Светлай памяці цёткі Волі*

А прыйшла смерць вечарам...

Цётка паміралa.
Светлыя
Да вечнага
Думы прасцірала.
Памянула ціха
Ў цёмную падушку
Маці ды зямельку,
Сонца ды дачушку,

Чатыры
 імёны
 жыцця...

* * *

Захварэла маці —
Пацямнела ў хаце,
А паздаравела —
Ў хаце пасвятлела.

Помніцца з калыскі:
Ноччу прачынаўся;
На мой кліч мне блізкі
Голас адзываўся...

Як яе не стане —
Цёмна ў хаце стане.
Хто мне адгукнецца,
Сум жыцця развее,
Блізкім назавецца,
Сэрца зразумее?

## ВЯСКОВЫ ПЕНСІЯНЕР

Марнее мой сусед —
Скрозь мала цяглай справы.
Збягае пакрысе
Народ да слоў і славы.

На весніцах вісіць
Зрання ў сваім падворку,
Смыліць яму, карціць
Пачаць хоць з кім гаворку.

Змарнелы конь брыдзе.
Вязе кудысь жанчыну.

«Супоня, глянь, спаўзе!
Папраў,— крычыць,— ляйчыну!»

Падыдзе. Звяне злосць.
Пагляне, як з іконы:
«Ну, конь, які ўжо ёсць.
Хамут бы хоць ягоны...»

Каня перапражэ
З дасведчанасцю справы,
І конік той заржэ
І стане больш рухавы.

І доўга будзе ўслед
Глядзець ён той павозцы,
На той апошні след,
Што пакідае ў вёсцы.

## НА ПАГОСЦЕ

Зранння панурыя мужчыны
Дзяўбуць прамерзлы сіняпёс.
Няма ні права, ні прычыны
Хаваць іскрыны скрушных слёз.

Мароз пад пахамі зяхае,
І круціць рукі цяжкі лом.
Што гаварыць,— усіх чакае
Зямны і
вечны гэты дом.

Тут будзе лішнім нават слова.
Гудуць ламы: «Жывому — жыць!»

Пагодкаў іх амаль палова
На гэтых могілках ляжыць.

І дзень на схіле. У знямогу
Растайны стук расце. Пара!
Іх шлях ляжыць, і дзякуй богу,—
Яшчэ з пагоста да двара.

* * *

*Светлай памяці*
*сябра В. Мацукевіча*

Ляцяць, гагочуць гусі.
Бывайце! Да вясны!
Аб мілай Беларусі
Мне сняцца сны...

Барвее сонцам захад,
І стынуць ад расы
І яблыні ў прысадах,
І сінь-лясы...

Каханая, прачніся.
Адпрэч жальбу і сум.
Зара ў акне — начніца
І яснасць дум...

І ў кожнай думы шчырай
Адзіны ёсць выток:
Зямля, народ, Айчына —
Жыцця глыток...

Чаго ж гагочуць гусі?
Куды ж імкнуць яны
Ад роднай Беларусі,
Ад мілай стараны?..

* * *

...Ледзь толькі вечныя дубы
Заценяць дня аблогу —
Шапчу імя тваё, нібы
Шапчу малітву богу...

...На сонных вейках ажыве
Твой вобраз дзіўна помны,
І чоўнам дума адплыве
На бераг твой чароўны...

...Расу каляную збяру
На золку з кветкі першай.
Імя святое паўтару
Птушынай мовай пеўчай.

Адна дарога — ў два канцы
Па кругу дня і ночы,
Дзе нашы душы, як сляпцы,
Сустрэліся аднойчы.

* * *

Дзякуй, дзіўная, за каханне!
Дзякуй, юная, за любоў!
Да былога няма вяртання.
Я ж вяртаюся зноў і зноў.

Не забылася. Не збылося.
Не збалела да гэтых пор.
Чую ноччу я адгалоссе...
Днём даймае мяне дакор.

Што ж, няхай на паўвека — суму!
Што ж, няхай на жыццё — бяды!
Пра цябе саграваю думу,
Як цябе саграваў тады...

* * *

Мне светла гэтай ноччу.
Перада мною — ты...
Цвітуць, як зоры, вочы,
Гараць твае сляды...

І вусны ціха свецяць,
Бы цёплы вугалёк.
Адзіная на свеце
Ты, блізкая здалёк.

Ды вось яно, імгненне,
Ды вось ён, гэты час:
Спакусы наталення,
Што аддаляе нас...

* * *

*Святлане*

Пад гэтай лютаўскай завеяй
Твая пявучая далонь
Збалелым дотыкам навее
Вясновай квецені агонь.

І аднясе твой пошапт вецер,
І мой — за ім...
Куды? Каму?
Каму яшчэ на белым свеце
Самотна ў гэтую зіму?

І хто яшчэ пад лютым ветрам
Цяпла шукае ў халады?
Каму яшчэ даруе вера
Тарыць віхураю сляды?

Ці я адзін, дзівак нязломны,
На гэтым хутары лясным
Зацэпліў дзве твае далоні,
Як дзве праталіны вясны.

* * *

Я — боль спрадвечны твой. А ты —
Майго жыцця зямная радасць.
Надзеі смутак маладых:
Мы будзем разам...

Перажыву наноў гады,
Не абміну уласнай долі.
Як у чужым двары — вады,
Я папрашу тваёй нявolі.

І будзе час няўлоўны днец,
І шчасце, як сама работа:
Ля студні вёдрамі грымець —
Не адысці ад калаўрота...

* * *

Такая памяць у мяне,
Што ноччу сэрца захлынецца
Крывёй гарачай.
Не міне
Расплата сэрца.

Ды ёсць ратунак у мяне —
Твае далоні.
Хай жа да смерці не міне
Мяне палон іх.

А прыйдзе цёмны час, глухі —
Як адхінуцца
Ад тых далоняў,
у якіх
Два сэрцы б'юцца?..

* * *

Дай прачнуцца ў тваіх далонях!
Дай забыцца ў тваіх вачах!
Хай да смерці мяне палоняць
Думы светлыя па начах.

Нават раніцы я не рады.
Я люблю гэты боль начэй.
Дай мне вытрымкі, дай мне рады
Не закрыць на цябе вачэй.

Як дажыць гэты дзень да ночы,
Ноч пражыць з табой давідна,
Асляпі мне далонямі вочы —
Ты да дня мне адна відна.

### ПРАВІНЦЫЯЛЬНАЕ ПІСЬМО

Пра што, скажы, пісаць?
У нас зіма. І люта...
І рыжая ліса
Ў лясах хавае футра.

Мне помніцца, і ты
Насіла — фліртавала —
Лісіныя хвасты
І след свой замятала...

Было гэта даўно,
І так цяпер далёка.
Я піў тады віно,
А ты любіла Блока.

Той час, як карамель,
Злізалі мы дарэшты.
Цяпер твой клопат — хмель,
Мая свабода — вершы...

Вось-вось зіма міне,
І скінеш ты аўчыну.
І глянеш на мяне
Адталымі вачыма.

## ЖАНЧЫНА З МАРЫ

Цябе ніколі не было.
Аднойчы я цябе прыдумаў:
Любові запаліў святло
Над цёмным непарушным сумам.

Здзіўляўся мары, як дзіця.
Фантазію сваю галубіў.
А ты — прыйшла. Сама. З жыцця.
— Люблю,— мне прашаптала,—
любы...

І згасла дзіўнае святло...
І я тады спытаўся з сумам:
— Цябе ж ніколі не было...
— Была... Раней, чым ты прыдумаў...

* * *

Здаецца, кіну ўсё.
На д'ябла тыя вершы!
Няхай гарэць трысцём,
Але не самы першы.

Навошта ўсім крычаць,
Што ты не мог напеўна
Сусвет пераканаць
У дабраце душэўнай.

І ўсё ж сярод папер
Вазьму для апраўдання
Свой самы першы верш —
Урок праўдапісання.

* * *

*Міколу Аўрамчыку*

Ціха-ціха... Возера не плешча.
Ціха-ціха... Лес не зашуміць.
Прадчуванне слоў для лепшых вершаў
У душы маўчаннем адбаліць.

Адбаліць спакуса наталення
Да хвіліны вызнанага дня.
Ціха-ціха перад нараджэннем
Прабівае немасць птушаня.

І далёка хай яшчэ да песні.
Пакланюся вызнанаму дню,
Што душу акрыліць напрадвесні,
Каб набраць для песні вышыню.

## АБ СПАДЧЫНЕ

Добра, што не забылі,
Добра, што збераглі
Даўнія казкі і былі
Роднай маёй зямлі.

Помная, не забыта
Кожная ваша сеч.
Нас асяняў у бітвах
Ваш справядлівы меч.

Па курганах ступаю —
Спадчына на вякі,
Дзякуй вам: не шукаю
Хлеба з чужой рукі.

Лепшае зернем кіну
Ў веку свайго раллі,
Каб надалей Айчыну
Родную бераглі.

* * *

Людскою разумнаю воляй
Акрэслены песенны час,
І наша адвечная доля
Заўсёды залежыць ад нас.

Зайздрошчу птушынаму лёсу:
На волі, спяваючы, жыць.
Як птушкі ў лясах безгалосай,
Людзей не шукай без душы.

Блакітнае чыстае неба,
З бярозавым гаем зямля,
А больш і нічога не трэба
Для светлай душы салаўя.

Гармонія правіць Сусветам.
І ведама з даўніх часоў:
Там больш на Радзіме паэтаў,
Дзе больш салаўіных лясоў.

## СМАГА

Даўно тут ні плачу, ні песень.
Сцяжына. Падлесак. Курган.
І я тут, напэўна, не першы
На месцы былых пасялян.

Бяздонная гулкая студня,
Скрыпучы руды калаўрот.
Тут смагу і ў святы, і ў будні
Патоліў калісьці мой род.

Бясконцы ланцуг з'іржавелы
Вартуе пустое вядро.
Скрозь мохам парослае цела
Крыштальнае свеціць нутро.

І сам я вядро апускаю
Да самага чыстага дна.
Ды, покуль яго выцягаю,
З вядра выцякае вада.

Да болю звярэдзіў далоні.
Кручу і кручу калаўрот.
Хачу сваю смагу спатоліць,
Зачэрпнуць, дзе чэрпаў народ.

* * *

Сярод прыроды і людзей
Сябе шукаю.
Хоць многа згублена надзей —
Няма адчаю.

Усё лягчэй мая сяўня —
Не цісне восіл...
Ці апраўдаецца вясна —
Пакажа восень.

А покуль час да халадоў,
Падумаць трэба,
Ці многа выліта патоў
На соль да хлеба.

* * *

Ноч. Стаю ля акна.
Ўсё атулена змрокам.
Хоць бы зорка адна
Запалоніла вока.

Што ж там бачыцца мне?
Што ж я ўведаць жадаю?
Цёмным-цёмна ў акне,
А я свет разглядаю.

Ці не свет, а — сябе
Ў гэтым свеце трывожным.
Лёс па-рознаму б'е
Грэшных нас і бязбожных.

Мо таму давідна
Ты, душа, якой веру,
Ўсё стаіш ля вакна
І ўглядаешся ў цемру.

Не спяшайся, душа.
Пэўна, ў вечнасць паспеем.
На зямлі мы спярша
Сваю долю пасеем.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Пад вечар трохі падмарозіла.
Згрудзіла стыласцю раллю...
І белы снег, нібы малодзіва,
Праліўся [illegible] неба на зямлю.

Халодны, свежы — ў першабытнасці
Сваёй,— ён ліўся з-пад нябёс.
І ў гэтай светлай урачыстасці
Душа чысцелася ад слёз.

А снег той пах птушыным выраем,
І садам з яблыкам гнілым,
І бульбай, толькі ў полі выбранай,
І ўсім забытым і былым.

І на далонь маю гарачую
Лажыўся ён, як напамін,—
Што мной з таго нішто не страчана,
Што аджыло ў сабе самім.

* * *

Я ўсю цябе забыў.
Ты помнішся забытай.
Я так цябе любіў,
Схаваную за бытам.

І помню не цябе.
Сябе ў табе я помню.
...Якая ты цяпер,
Мне ўжо даўно ўсё роўна.

* * *

Калі не пішацца —
Не муч душу ныццём.
Няхай суцішыцца,
Дыхне жыццём.

4 Зак. 3844

Няхай натоліцца
Быццём і... награшыць.
А грэх не ўтоіцца.
Маліся. Плач. Пішы.
Суд над сабою вершамі вяршы.

* * *

*Уладзіславу Арлову*

Напэўна, ёсць наіў
Жыцця майго і смерці,—
Як яблыка наліў,
Якое трэба стрэсці.

І ёсць жыццёвы сэнс,
Які не мае мовы,
Што называюць: стрэс,
Ён стрэсці нас гатовы.

Ды глыбака ў вяках
Зямлі карэнні нашы,
Таму й знікае страх
Прад тым, хто смерцю страшыць.

І ўсё ж — пакуль жыву —
Я дзякую Айчыне,
Дзе прадзедаў траву
Кашу ў сырой лагчыне...

* * *

І вынес я думы
Ў жытнёвае поле —
Ад тлуму, ад суму,—
Дзе вольная воля...

І там, на раздоллі,
Пад небам высокім,
Я быў, як ніколі,
Ад смерці далёкі.

І голасам нейчым
Шаптала калоссе:
«Тут будзеш ты вечным...»
А мо падалося?

* * *

На снезе гарыць жыватворны касцёр,
То грай снегірыны зацепліў прастор.
Марозы, завеі, яго не тушыце.
Снягір — не жаўрук,
што пракорміцца ў жыце.

Хай ярка палае да самай вясны
Зімовы касцёр, сagраваючы сны.
Магчыма, аднойчы, скалеўшы ў дарозе,
Успыхнеш душой, як снягір на марозе.

## ЭЛЕГІЯ ТУГІ

Аб чым тужыць, калі яснее дзень?
Жанчына лісту мех нясе, як долю...
І аніхто, здаецца, анідзе
У свеце не атручаны бядою.

Такая прага: векавечна жыць;
І спадзяванне светлае такое,
Што ў гэты час мне грэх было б тужыць,
Хоць ёсць аб чым, прыпомніўшы былое...

* * *

Дажыла да старасці
У сваім паўзмроку.
І не мела зайздрасці,
Не глядзела воўкам

На двары суседскія,
На кішэнь пудовую...
Не таміце сэрца ёй,
Мужыкі удовыя.

Запаліць бы ў печы ёй
Ды сырыя дровы...
Ах ты, доля вечная,
Доля ты бядовая.

Так любіць хацелася!
...Злыбеда ды скруха.
Ў печы разгарэлася,
А ў душы — патухла...

* * *

Ясны дзень. І лес руды.
Ліст хавае ўсе сляды.
Тут — бярозы, там — дубы.
Тут — грыбы і там — грыбы.

Што ж, нарэжу для патраўкі.
Маці зварыць — што за смак!
І здароўе на папраўку,
Можа, пойдзе як-ніяк.

Хоць і тым сягоння шчасны,
Што сагнаўшы боль-нуду,
П'ю свой дзень, лясны і ясны,
Як гарачую ваду.

* * *

Не многа пабачыў —
Не многа і знаю.
І што я там значу
Для роднага краю?

Істота жывая
Разумнага цела.
Таму, што, зямная,
Зямнога хацела.

Хацелася ўжыцца
Ў народ, і настолькі,
Каб жыць і свяціцца,
Як свецяцца зоркі.

* * *

Смуткуюць паэты,
Што ўсё ўжо апета.
А я не смуткую —
Я лёс свой смакую.

Аб мары — з надзеяй.
Са страсцю — аб шчасным.
І што аб сабе я,
То ўсё — аб сучасным.

Сваёю душою,
Сваімі рукамі —
Усё, што знайшоў я,—
Не знойдзецца вамі.

Як сэрца балючасць,
Так боль майго слова
Ужо не прыручаць,
Не скажуць нанова.

* * *

Узняўся вецер, як тайфун.
Скруціла дрэва на вяроўку.
Ты паспрабуй яго ўтаймуй,
Калі зрабіць не можаш кроку.

І ўсё ж: назад не адыдзі.
Не аддавай абжытай пядзі.
Стой на сваім — як паглядзі —
Вунь дрэвы скручаныя ў садзе.

Стыхійны, грозны небасхіл
Усё з зямлёй змяшае разам...
Прадухіліць не маеш сіл,
А выстаяць — твой абавязак.

## ЖЫЦЦЁ

Жыццё прасцей,
Чым дума аб жыцці.
Працуй, пацей
І век свой караці.

Другі за сто,
Бывае, пражыве,
А творцам аніхто
Не назаве.

А гэты чвэрць
Жыцця пражыў зусім.
Памёр, а смерць
Няўладная над ім.

Працуй, пацей —
Бяссмерць сваё жыццё,
Яно значней,
Чым славы небыццё.

## ЧАКАННЕ СНЕГУ

Голым голлем галосіць яблыня...
Адгарэлі твае плады...
Разумею цябе, азяблая,—
Снег на крону тваёй бяды!

Вырай вернасці вераб'інай
Нават той не пакінуў дом,
Дзе рубінавы жар рабіны
Занавесілі за акном.

Што так хутка — скажы,
каханая,—
Наш мінаецца летні год?
Як рака, ільдом закаваная,
Ці растопіш свой першы лёд?..

Прагну чыстага, набалелага —
Ачышчэння твайго, зіма.
...Нават першага снегу белага
З неба ззоранага няма...

* * *

*Любе А-вай*

Якое дзіўнае каханне!
Ні слоў, ні мукі, ні журбы,
Ні тайных стрэч, ні расставанняў
Нам лёс не выдзеліў скупы.

Вясна такая шчыравала!
...Вятры такія адгулі,
Што квет і завязь пазрывала,
А ў восень —...яблыкі былі...

## ТЫ

...І недзе ёсць на свеце ты,
Як зорка, што ў начным прадонні.
Яшчэ не бачна нам сягоння
З прычыны нашай слепаты.

Як кропелька жывой вады,
Што бродзіць вечнасцю ў прыродзе —
Так недзе ёсць на свеце ты,
Шчаслівая ў сваім народзе...

* * *

Пчала на кветцы шчыравала.
Трава магільная расла...
Душа мая адагравала
Усё, што спраўдзіць не магла.

І голас вечнасці пачуўся
Мне з-пад магільнага крыжа...
...Як пчолы — мёд, збірай пачуцці,
Што ж думы горкія, душа?

* * *

Як мама высахла мая
Пад ліпеньскім спякотным сонцам!
Як прырасла навек зямля
Да рук руплівага вяскоўца!

Высока! Дум маіх вышэй
Заднее ранак, перамыты
У росным холадзе начэй
На промнях сонечнай арбіты.

Прыроды цень — далей, далей...
Бліжэй, бліжэй — мае турботы...
І паміраем на сяле —
І абмываюць нас ад поту.

* * *

Дзе сарока трашчыць —
Там варона кружыла.
Як разумна пражыць,
Каб душа не тужыла?

...За адлігай — мароз.
І мароз — ненадоўга...
Ці то сані, ці воз
Прымяраць да гнядога?

Як агледзець прастор,
Што кладзецца пад ногі,
Каб не мучыў дакор
Нескаронай дарогі?

Як абдумаць жыццё,
Каб усё, што магчыма,
Не лягло ў забыццё,
А ўзрасла за плячыма?

* * *

Жадаць дабра — тварыць надзею.
Тварыць дабро — жадаць жыцця.
Ды часам мала дабрадзеяў
І шмат спрадвечнага ныцця.

Мы то шукаем справядлівых,
То спадзяёмся на прагрэс...
А пра сябе — глядзі — забылі,
Нібы ў саміх дабра ў абрэз.

* * *

Не ведаю, ці быў бы я шчаслівым
Калі б свае юначыя гады
Не раздарыў, як яблыня налівы,
І сам свае не вывярыў брады.

Не ведаю, ці быў бы я любімым,
Калі б цяпло і ласку жабраваў,
Каб хоць аднойчы выпадковым імем
Цябе, любоў, забыўшыся, назваў.

Не ведаю, ці быў бы чалавекам.
У што б я верыў і каму служыў,
Калі б не жыў вось так
адкрыта з векам
І чалавекам так не даражыў?..

* * *

Давайце жыць аддадзеней і шчырай!
Давайце жыць змястоўней і мудрэй!
Няхай навекі абяссмерціць ліра —
Не кроны — карані высокіх дрэў!

Стыхійны час не раз пакрышыць кроны.
(О, розум наш, ад гневу барані!)
Ды вечна застанецца нескароным
Усё, што ўглыб пусціла карані.

* * *

Там, дзе клён агністы дагарэў,
Дождж халодны тушыць папялішча...
Стогнуць кроны ссірацелых дрэў,
Вецер па-за гуменнямі свішча...

Там дзяўчынка — юная зусім —
Ці то плача, ці спявае штосьці,
Ліст падняўшы з соннае гразі,
Грэецца ля стылай прыгажосці.

Гэта ўсё пабачыўшы здалёк,
На яе гляджу замілавана.
Дзякуй, ты натхнення вугалёк
Восеньскай душы падаравала.

Незямное, мілае дзіця,
Хай яснее твой світальны розум!..
...Раніца чысцеецца жыцця
Ў прадчуваннях першага марозу...

* * *

Дажджы... Дажджы...
Макрэе ноч і дзень.
Змывае фарбы восені рудыя.
Ляжаць, нібы намытыя ў градзе,
Антонаўкі, як зліткі залатыя.

Так неба нажадалася зямлі!
Прыпала ніцма ў безназоўным плачы.
Што нават зоркі ноччу не змаглі
Сябе ў прасторы цёмнай абазначыць.

Ні бога, ні прарока не заву.
І вокны не спяшаюся завесіць...
Сярод людзей я на зямлі жыву —
Не мне,
Дык іншым сонца ўсё-ткі свеціць.

* * *

Тайна малюю каханай партрэт
Фарбамі кветак і неба начнога...
Памяць мая — палявая дарога,
Пыл асядае — яснеецца свет.

Цераз яе разуменне сябе
Прагну адкрыць у бясконцым сусвеце.
Можа, таму на любімым партрэце
Светлыя фарбы застылі ў журбе...

* * *

Што з раніцы туляюся, як цень,
Я з цёмнымі кругамі пад вачыма?
Задумны што? Якая ёсць прычына
Аплакаць мне і гэты ясны дзень?

Балючым стаў прывід маёй душы.
А птушкі вунь крыляюць над барамі,
Нектар шукаюць пчолы над палямі,
І — спеюць навальнічныя дажджы...

Пакуль трымаюць крылы іх, лятаюць,
Гармоніі жыцця не парушаюць.
А — я?..

* * *

Адступаюць лясы.
Высыхаюць балоты.
Усё меней красы —
Усё больш адзіноты.

З дбайным сумам глядзяць
Землякі-хлебаробы
На сваю сенажаць,
На свае агароды...

Чалавек — уладар,
Бог прыроды і знаўца,
Толькі ўсё ж гаспадар
Яшчэ дрэнны, прызнацца.

...Мазалі да крыві,
Кроплі вечнага поту...
Трошкі больш бы любві
Нам яшчэ да работы.

## АГОНЬ

Як начны матылёк
На агонь залятае,
Так і мы — хай здалёк
Толькі ледзь запалае.

І палаюць кастры,
І злятаюцца душы...
Толькі той і згарыць —
Хто агню не патушыць.

* * *

Няўжо сплыве абеленая даль,
І шэрань зноў дарогі мне пяройдзе,
Размые каламутная вада
Настылае і чыстае ў прыродзе?

...Цяпло і холад, цемра і святло
Прадоўжаць круг заведама вячысты...
О, хоць бы тое квеценню ўзышло,
Што выстыла і выстаяла чыстым!

* * *

Люблю высокае сонца,
Марозны цвярозы дзень!
Снуе за мной, як прапойца,
Усохлы, ліслівы цень.

Ні грама яму, ні крошкі.
Сабе мятлу і яму.
Няхай папацее трошкі
За доўгую ўсю зіму.

Я выб'ю з яго дурноту!
Я вытрасу цёмны дух!..
Пакуль не саб'ю ахвоту
Пацець аднаму за двух.

Прыпруся да пня-калоды,
Скажу яму: «Што ж ты, брат...
Няўжо не шукаў свабоды?»
«А хто,— ён спытае,— раб?»

...Пакоціцца ціха сонца.
Ён пойдзе за ім услед —
Высокі, нямы, бясконцы —
Свабодны на ўвесь сусвет.

* * *

Гэты вершы
Стагамі вершыць.
А гэты па каліўцу, па травінцы
Прыносіць,
як дзецям прыносяць гасцінцы.

А я, як паветрам,
Жыву і дыхаю
Мовай роднаю,
Мовай ціхаю...

Што адбаліць
Ды ў другіх адзавецца,
Можа, паэзіяй і назавецца.

* * *

У горад! Хлебам не кармі...
(Дзе абжывуцца — там папросяць.)
Слабеюць нашы карані,
І кроны меней пладаносяць.

Прыедзе брат, і той, глядзі,
Мне пальцам торкае у грудзі:
— Ты па рэдакцыях хадзі...
У горад едзь... Праб'ешся ў людзі...

Яшчэ мой розум не зачах...
Ці мне за славаю ганяцца?
Адкуль мне ў людзі прабівацца?
Я на людскіх заўжды вачах.

А я прывык, як мой народ,
Мець ясны клопат пажыццёвы.
Я пераждыў з ім недарод
І зноў пасеяў хлеб і... словы.

* * *

Калі жанчыны плачуць
З навалы ці з бяды,
То душы сохнуць нашы
На доўгія гады.

Мужчыны, кажаш, плачуць...
І столькі ёсць прычын...
І гэта ўсё ж не значыць,
Што бачыў ты мужчын.

* * *

Спакойныя мяне перажывуць,
Як многіх на вяку перажывалі.
Спакойныя спакойна дажуюць,
Дап'юць віно, абыдуць перавалы.

Спакойныя не любяць перашкод.
Спакойныя не церпяць перападаў.
Спакойныя, чакаючы выгод,—
Чакаюць выбуховасці загадаў.

Спакойныя не лезуць да вяршынь,
І ўсё ж, калі вяршыні пакараюць,
Спакойныя з наседжаных вышынь
Няўрымслівых
за дзёрзкасць дакараюць.

Спакойныя да старасці жывуць
І ўсё-такі аднойчы паміраюць.
І — гэта ўсё. І ты аб іх забудзь
І пажадай шчаслівага ім раю.

А нас чакае новы перавал,
А нас чакае новая вяршыня,
Дзе неаднойчы, пэўна, піраваў
Бог малады на лёгкай аблачыне.

* * *

Аджалі жнівень...
На рыжым іржышчы
Дажджы пасуцца.

Крамяным яблыкам
Паміж галінаў
Рудзее сонца.

І нават птушку
Цяпер не ўбачыш
Зусім адзінай.
А я, адзіным
Маркотным сведкай —
Жыцця палонны,—
Гляджу, як гасне
І халадзее
Палетак часу...

І толькі неба
Засеяў зорамі
Вандроўны вецер,
Нібыта зернямі
Адвечнай памяці
Імгненняў светлых...

* * *

Зраблюся я загадкава-шчаслівы,
Калі тады, калі не будзе нас,
Мой верш прыпомніць хто-небудзь тужлівы,
Каб зверыць час...

* * *

О, як душа ад болю часта ные:
Сваё знайсці, сваім жыццём пражыць!..
Ды лёсы, нібы лёс адзін,— скразныя,—
Што — са свайго, што ў свой перaлажыць...

І ўсё ж магчыма дні пражыць і годы
Самім сабой і нават век — дарма...
І толькі вечнасць пражывеш з народам.
У адзінокіх вечнасці няма.

* * *

Калі ў прыродзе стыне росны плод
І восень дагарае на зыходзе —
Заўсёды прыбаўляецца турбот
І клопату адвечнага ў народзе.

Не першая, здавалася б, зіма.
І восень не апошняя пражыта.
Чаго ж тады спакою зноў няма
За тое, што сабрана і нажыта?

У вечнасць шлях з надзённага ляжыць...
І думаем ля восеньскіх аселіц:
Як праведна нажытае пражыць?
Як праведна сабранае засеяць?

* * *

Дуб стары стаіць на ўскраі лесу,
Сыпле ў жніўні жменяй жалуды.
З'іржавела з той пары жалеза,
Калі ён падняўся малады.

...І стаіць пад гэтым вечным небам,
Непахісна кронаю шуміць.
Пэўна, так самой прыродзе трэба
Гэтым існасць вечнага сцвярдзіць.

Разам з ім расло дубоў нямала,
Ды мінуўся іх кароткі век —
Што сама прырода скрыжавала,
Дзе «памог» прыродзе чалавек.

...Ну, а ён стаіць — магутны волат!
За сябе жыве, за паўшых ніц...
Так аднойчы прарастае слова,
Векавых не знаючы граніц.

* * *

З жыта мы прарастаем,
І, пусціўшы карэнне,
Мы дарэмна чакаем
Ад жыцця паўтарэння.

Бо нішто непаўторна.
Непаўторна ніколі...
Нашым думам прасторна,
Нібы коласу ў полі...

Будзе ўсё перажыта,
Ды маленне аб вечным:
Каласілася б жыта
Светлых дум чалавечых...

* * *

Апошнія лісты апалі долу...
Гарыць у кроне залаты пралом
Антонаўкі, налітае мядовым,
Густым і перастоеным святлом.

Ну, што ж, пара і ўдачы і пралікі
У адзінае адно падсумаваць
І аб гадах, што нібы птушкі зніклі,
Задумацца, але не сумаваць.

Няхай ляцяць. Іх вырай беззваротны.
Ды песні іх на ўсім сваім шляху
Яшчэ пачуе не адзін гаротны
І не адзін шчаслівы на вяку...

## ВЕРШ У АПРАЎДАННЕ ВЕРША

Я цэлы дзень пацеў над тэмай
Пра сутнасць нашага быцця.
Душа мая, нібы антэна,
Лавіла вобразы жыцця.

Ды не прыйшло задавальненне
Ад слоў, што славілі жыццё,
І варухнулася сумленне,
Нібыта колкае асцё.

Хай геніяльнейшую оду
Я напішу, і ўсё ж найперш,
Патрэбен мне, а не народу,
Як апраўданне, гэты верш.

Тварэнне часу — гэта праца.
Давайце жыць такой сям'ёй,
Дзе кожны ў сілах апраўдацца
Сваёй патрэбнасцю зямной.

* * *

Люблю дзяцей гуллівае грамадства!
З глыбінь кішэняў даставаў не раз
Цукеркі ім, якія пра запас
Прывык трымаць [redacted] наяўнасці дзівацтва.

Ліжыце солад юнага быцця
І ў твар мой не ўглядайцеся трывожны.
Не толькі я, а, пэўна, кожны
Даліжа соль і гаркату жыцця.

## УРОК АТЭІЗМУ

Даказваў я дарэмна,
Бо плюнуў дзед і лёг...
— Няма ў цябе, і — дрэнна,
А мой са мною бог.
Я праўдай і сумленнем
Служу яму пры тым,
І падаў на калені
Я толькі перад ім.
І ў тым не баязлівасць,
Што пеклам апячэ,
А проста ў справядлівасць
Я верую яшчэ.
Ды гэта, брат, нічога,
Калі у нас яна,
І з богам і без бога,
А вера ўсё ж — адна.

* * *

Я не зайздрошчу тым, хто мае.
А тым — хто лепшае раздаў.
Душы пачуццяў не стрымаеш,
Як не стрымаеш росту траў.

...З кляймом замежнага хлудзіны...
...Пасады, званні і чыны...
Заўчасна нас адгарадзілі
І заружовілі нам сны.

І аддаліўшыся шукаем
Сярод начэй сябе саміх.

Дарэмна з сумам адкрываем
Свой прыхаваны патайнік.

На месцы ўсё і нават — болей...
Ды менш і менш чамусьці нас.
Зямную цягу век адолеў,
Людзей не зблізіўшы якраз.

І ўсё ж жыве святая вера,
Што як бы шлях не быў круты,
Імкненне вечнае наперад
Не спапяляе дабраты.

Не спапяліць і не заглушыць
Высокай еднасці душы,
Што вучыць нас, як болем мучыць,
На кожным новым рубяжы.

* * *

Я — раб паэзіі. І ўсё ж надзіва
Шчаслівы, што — як вязень ланцугом —
Прыкуты сваёй мовай да Радзімы
І разам да сусвету усяго.

Што ўсё часцей я адчуваю змову
Душы і сэрца з забеллю бяроз...
Што апраўдае?
Апраўдае мова,
Якую маці вышаптала скрозь,
Мой лёс гадаючы...

ЗМЕСТ

**Галубовіч Л.**

Г 15 Таемнасць агню: Вершы/[Прадм. В. Палтаран].— Мн.: Маст. літ., 1984.— 86 с., іл.— (Першая кніга паэта).

30 к.

У прадмове да гэтай кнігі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Вера Палтаран піша: «Свет паэзіі Леаніда Галубовіча — актыўны, дзейны, працавіты. Тут расце хлеб, шумяць над нівамі ліўні, стукаюць сякеры цесляроў і ламы далакопаў,— адным словам, тут чалавек і прырода робяць сваю адвечную справу, якая і стаецца зместам вершаў паэта».

Г $\frac{4702120200-020}{М 302(05)-84}$ 76—84

ББК 84Бел7

Бел2

*Первая книга поэта*

**Голубович Леонид Михайлович**

**ТАЙНА ОГНЯ**

**Стихи**

**Минск, издательство «Мастацкая літаратура»**
**На белорусском языке**

**Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк. Мастак С. М. Пчалінцаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Т. В. Трубач.**

**ІБ № 2038**
**Здадзена ў набор 04.07.83. Падп. да друку 25.11.83. АТ 08742. Фармат 70×90/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 3,22. Ум. фарб.-адб. 4,61. Ул.-выд. арк. 2,91. Тыраж 2500 экз. Зак. 3844. Цана 30 к.**

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.**

**Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.**